Рэспубліцы ў цяперашні час? Якая колькасць насельніцтва няпольскай нацыянальнасці пражывае на тэрыторыі ПНР?

Адказ на гэтыя пытанні даюць наступныя статыстычныя даныя:

## Нацыянальныя меншасці

(ацэнка)

| | | |
|---|---|---|
| Беларусы | — | 200.000 жыхароў |
| Украінцы | — | 200.000 жыхароў |
| Яўрэі | — | 40.000 жыхароў |
| Славакі | — | 20.000 жыхароў |
| Цыганы | — | 15.000 жыхароў |
| Літоўцы | — | 10.000 жыхароў |
| Чэхі | — | 5.000 жыхароў |
| Немцы | — | 4.000 жыхароў |

Акрамя таго на тэрыторыі Польшчы пражываюць групы рускіх, грэкаў, македонцаў і іншых нацыянальнасцей.

Агульная колькасць насельніцтва няпольскай нацыянальнасці складае ў цяперашні час больш паловы мільёна чалавек. У адносінах да ўсяго насельніцтва Польскай Народнай Рэспублікі (28,5 млн. чалавек) нацыянальныя меншасці складаюць толькі каля 2 прац. Аднак нацыянальнае пытанне ва ўмовах народнай улады нельга мерыць толькі колькасцямі наказчыкамі.

Кіруючыся прынцыпамі пралетарскага інтэрнацыяналізма, Польская Аб'яднаная Рабочая партыя і ўрад П.Н.Р. гарантуюць усім грамадзянам поўнае права і магчымасць на нацыянальнае самавызначэнне. Аб гэтым гавораць наш усенародны закон — Канстытуцыя П.Н.Р. у 69 артыкуле:

1. *Грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі незалежна ад нацыянальнасці, расы і веравызнання маюць роўныя правы ва ўсіх галінах дзяржаўнага, палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця. Парушэнне гэтага прынцыпу шляхам устанаўлення якіх-небудзь прамых ці ўскосных прывілеяў, або абмежаванне ў правах з увагі на нацыянальнасць, расу ці веравызнанне падлягае пакаранню.*
2. *Распаўсюджванне нянавісці або пагарды, выклікванне непрыязні або зневажанне чалавека па прычыне нацыянальнай, расавай ці рэлігійнай рознасці забаронена.*

Гэтыя канстытуцыйныя прынцыпы ажыццяўляюцца партыяй і ўрадам шляхам стварэння ўмоў усебаковага развіцця асветы і культуры на роднай мове сярод усіх нацыянальнасцей, пражываючых у нашай краіне. Сённяшнія адносіны да нацыянальных меншасцей з'яўляюцца выразам імкнення да выхавання ўсяго грамадства ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, у духу дружбы і ўзаемнай пашаны.

Доказам раўнапраўнага палітычнага і грамадскага становішча нацыянальных меншасцей у ПНР, доказам поўнага давер'я да народнай улады з'яўляюцца праведзеныя ў лютым 1958 года выбары дэпутатаў (радных) у органы народнай улады — Рады Нарадовыя. Сёння па ўсёй краіне ў радах нарадовых працуюць 3.000 радных — прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, у тым ліку — 1.456 беларусаў, 607 украінцаў, 66 літоўцаў і інш.

З году ў год расце і ўмацоўваецца еднасць працоўных Польскай Народнай Рэспублікі, незалежна ад іх нацыянальнасці. Штораз шырэй прадстаўнікі нацыянальных меншасцей уключаюцца ў працу розных палітычных і грамадскіх арганізацый, сельскагаспадарчых гурткоў, маладзёжных арганізацый і г. д.

Культурна - асветная праца сярод нацыянальных меншасцей пабач развіцця школьніцтва на роднай мове з'яўляецца адным з галоўных элементаў ажыццяўлення прынцыпу раўнапраўя сярод усіх грамадзян нашай дзяржавы, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці. Доказам гэтага з'яўляецца дапамога партыі і ўрада ПНР у арганізаванні грамадска - культурных таварыстваў — Беларускага, Украінскага, Рускага, Літоўскага, Яўрэйскага, Чэхаў і Славакаў, а таксама Нямецкага і Грэцкага.

Кожная нацыянальная меншасць у ПНР мае сваю спецыфіку, культурныя асаблівасці, розныя гістарычныя ўмовы ўплывалі на фарміраванне культурнага ўзроўню паасобных нацыянальных груп. У сваёй культурна - асветнай дзейнасці нацыянальныя меншасці знаёмяцца з гісторыяй сваіх народаў з багатымі традыцыямі супольнай з польскім народам барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Кожная нацыянальная група ў Польшчы мае свае гурткі мастацкай самадзейнасці, знаёміць таксама польскае насельніцтва з сваёй культурай, з прыгажосцю сваёй песні і паэзіі.

Яркім праяўленнем дасягненняў у развіцці культурнай працы сярод нацыянальных меншасцей была арганізаваная ў 1958 годзе ў Варшаве выстаўка народнай творчасці, а таксама канцэрт найлепшых беларускіх, украінскіх, літоўскіх, рускіх, яўрэйскіх і славацкіх калектываў песні і танца.

Ніжэй прыводзяцца важнейшыя даныя, якія характарызуюць развіццё грамадска - культурнай дзейнасці паасобных нацыянальных Таварыстваў у Польскай Народнай Рэспубліцы.

## Украінскае грамадска-культурнае таварыства

(Українське суспільно - культурне Товариство — УСКТ).

УСКТ было арганізавана ў 1956 годзе. Галоўнае Праўленне знаходзіцца ў Варшаве.

УСКТ мае 8 ваяводскіх аддзелаў (Люблін, Жэшув, Ольштын, Гданьск, Шчэцін, Кашалін, Зелёна - Гура і Вроцлаў), якія раздзяляюцца на 74 павятовыя аддзелы. Ва ўсёй ПНР знаходзіцца 270 гурткоў УСКТ.



*Хор варшаўскага гуртка ГП УГ-КТ.*

Паводле стану на канец 1957/58 навучальнага года ў ПНР налічвалася 8 школ з украінскай мовай навучання, у якіх вучылася 279 дзяцей, а таксама 142 школы з украінскай мовай як прадмет, у якіх вучылася 2.377 дзяцей.

У Бартошыцах (Ольштынскае ваяводства) існуе Педагагічны ліцэй, які рыхтуе настаўнікаў для выкладання украінскай мовы. Акрамя таго, пры Варшаўскім Універсітэце існуе кафедра украінскай філалогіі, а пры Завочнай Настаўніцкай Студыі ў Шчэціне — секцыя украінскай філалогіі.

УСКТ мае у мясцовасцях, дзе пражывае украінскае насельніцтва, 50 гурткоў мастацкай самадзейнасці, у тым ліку асаблівай ўвагі заслугоўваюць харавыя і танцавальныя калектывы ў Любліне, Вроцлаве, Кашаліне Шчэціне, Гданьску і Варшаве.

УСКТ мае 16 уласных бібліятэчных пунктаў. Акрамя таго існуе 80 дзяржаўных бібліятэк, дзе знаходзяцца кнігі на украінскай мове.

Прэсавы орган УСКТ — тыднёвік «Наше Слово» з дадаткамі — «Наша Культура» і «Світанок». Для украінскага насельніцтва ў ПНР арганізаваны радыёперадачы на украінскай мове ў Любліне, Кашаліне, Вроцлаве, Шчэціне і Ольштыне.

## Рускае культурна-асветнае таварыства

(Русское культурно - просветительное Общество — РКПО).

РКПО — арганізавана ў 1950 годзе. Галоўнае Праўленне знаходзіцца ў Варшаве.

РКПО мае 6 аддзелаў (Варшава, Беласток, Лодзь, Ольштын, Гданьск і Вроцлаў), пры якіх працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці, а таксама бібліятэчныя пункты. Асаблівай ўвагі заслугоўваюць рускі лодзінскі хор «Калінка» і таксама хор у Варшаве.

У Варшаве знаходзіцца драматычны тэатр РКПО, пастаноўкі якога спаткаліся з добрай ацэнкай польскага друку.

У мясцовасцях Гронды і Аўгустоў Беластоцкага ваяводства, дзе пражываюць групы рускага насельніцтва, працуюць дзве школы з рускай мовай як прадмет.

Прэсавым органам РКПО з'яўляецца тыднёвік — «Русский Голос» з літаратурным дадаткам — «Звено»

## Літоўскае грамадска-культурнае таварыства

Літоўскае Таварыства — арганізавана ў 1957 годзе. Галоўнае Праўленне знаходзіцца ў мясцовасці Пунск (Беластоцкае ваяводства).

Літоўскае Таварыства падзяляецца непасрэдна на гурткі, якія амаль поўнасцю працуюць у павеце Сэйны Беластоцкага ваяводства, дзе пражывае асноўная колькасць літоўскага насельніцтва. Акрамя таго, існуе гурток у Варшаве.

Паводле даных на канец 1957/58 года, у ПНР налічвалася 6 школ з літоўскай мовай выкладовай і 13 школ з літоўскай мовай як прадмет. Агульная колькасць вучняў у гэтых школах складала 568 чалавек. У мястэчку Сэйны існуе літоўскі агульнаадукацыйны ліцэй.

У мясцовасці Пунск працуе Літоўскі Дом Культуры, а ў вёсках павета Сэйны — гурткі мастацкай самадзейнасці. Даволі вялікую папулярнасць здабыў літоўскі народны хор з Пунска.





*Хор ГП рускага культурна-асветнага таварыства ў Варшаве. фота — ЦАФ*

## Грамадска-культурнае таварыства чэхаў і славакаў

Таварыства чэхаў і славакаў — арганізавана ў 1957 годзе. Галоўнае Праўленне знаходзіцца ў Варшаве.

Таварыства мае свае аддзелы ў мясцовасцях Куцоў і Зелёў (Лодзінскае ваяводства), Кудова і Стшэлін (Вроцлаўскае ваяводства), а таксама ў Варшаве, Кракаве, Любліне і Лодзі. Акрамя таго існуюць аддзелы Таварыства ў Яблонцы (Арава) і Кацвіне (Спіш), на тэрыторыі якіх знаходзіцца 25 гурткоў.

У 1957/58 навучальным годзе на тэрыторыі ПНР налічвалася 28 школ з славацкай мовай навучання і 4 школы з славацкай мовай як прадмет. Агульная колькасць вучняў у гэтых школах складала 2.020 чалавек. У гэтым самым годзе працавалі дзве чэшскія школы, у якіх навучалася 52 дзяцей. У Яблонцы на Араве існуе славацкі агульнаадукацыйны ліцэй.

Грамадска - культурнае таварыства чэхаў і славакаў у Польшчы шырока разгортвае клубную дзейнасць. Да гэтай пары працуюць клубы Таварыства ў мясцовасцях Кудова (у якім, між іншым, змяшчаецца рэгіянальны рэстаран і кафэ) .Зелюв, Куцоў, Яблонка, Кацвін, а таксама ў Варшаве і Кракаве. Пры клубах працуюць чэшскія і славацкія бібліятэкі і чытальні.

У многіх мясцовасцях, дзе пражывае чэшскае і славацкае насельніцтва, разгортваецца мастацкая самадзейнасць. Працуюць харавыя і танцавальныя калектывы (Зелюв, Яблонка, Кацвін), сельскія самадзейныя драматычныя гурткі (Подвільк, Зубжыцэ, Пекельнік), самадзейны тэатр лялек (Чорна Гора) і іншыя.

У многіх мясцовасцях арганізаваны для дарослага насельніцтва курсы славацкай мовы.

Органам друку Таварыства з'яўляецца перыёдык — «Život», які выдаецца ў Варшаве.

## Яўрэйскае грам.-культ. таварыства

Яўрэйскае таварыства было арганізавана ў 1948 годзе на базе існаваўшага ў першыя пасляваенныя гады т. зв. Цэнтральнага Камітэта дапамогі яўрэям. Галоўнае Праўленне знаходзіцца ў Варшаве.

Яўрэйскае таварыства мае 7 ваяводскіх аддзелаў (Варшава, Беласток, Лодзь, Кракаў, Катавіцы, Вроцлаў і Шчэцін), якія раздзяляюцца на павятовыя аддзелы.

У 1957/58 навучальным годзе на тэрыторыі ПНР налічвалася 7 школ, у якіх яўрэйская мова навучалася як прадмет. Колькасць вучняў у гэтых школах складала 1.792 чалавек.

Пры аддзелах Яўрэйскага таварыства працуюць бібліятэчныя пункты, развіваецца мастацкая самадзейнасць. Асабліва добрых вынікаў дабіліся яўрэйскія мастацкія калектывы з Вроцлава і Шчэціна.

У Варшаве працуе яўрэйскі прафесіянальны тэатр. Аб высокім мастацкім узроўні тэатра сведчыць вялікі поспех, з якім сустракаюцца пастаноўкі тэатра не толькі ў Польшчы, але і за граніцай.

Органам дрнку Таварыства з'яўляецца газета «Фолкс Штымэ». Акрамя таго выдаецца штомесячнік «Ідзішэ Шрыфтн».

## Нямецкае грам.-культ. таварыства

У сувязі з выездам нямецкага насельніцтва з ПНР у Нямеччыну зменшаецца размах культурна - асветнай працы Нямецкага таварыства. Дастаткова сказаць, што ў цяперашні час на тэрыторыі ПНР засталося ўсяго 4.000 немцаў, якія пражываюць у асноўным у раёне Валбжыха і Кашаліна.

Улады Нямецкага грамадска - культурнага таварыства знаходзяцца ў Валбжыху.

У 1957/58 годзе працавалі ўсяго 18 школ з нямецкай мовай навучання з колькасцю вучняў 580 чалавек.

У Валбжыху выдаецца тыднёвік для нямецкага насельніцтва «Die Woche in Polen». У вроцлаўскай радыёстанцыі арганізаваны радыёперадачы на нямецкай мове.

Поўныя магчымасці развіцця культурна - асветнай працы атрымалі ў Народнай Польшчы таксама іншыя меншыя нацыянальныя групы, як грэкі, македонцы і цыганы.

Ю. Т



# Росквіт эканомікі і культуры Савецкай Беларусі

### (Да саракагоддзя БССР)

1 студзеня 1919 года быў апублікаваны Маніфест Часовага рабоча - сялянскага ўрада Беларусі аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Дзень апублікавання Маніфеста і стаў днём нараджэння Беларускай ССР. Гэты гістарычны ў жыцці беларускага народа акт быў заканадаўча замацаван на Першым Усебеларускім З'ездзе Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, які адбыўся ў Мінску 2—5 лютага 1919 года.

Беларускі народ пры ўзаемнай дапамозе ўсіх народаў Савецкай краіны, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі на працягу мінулага саракагоддзя паспяхова ажыццявіў сацыялістычную індустрыялізацыю і калектывізацыю сельскай гаспадаркі, здзейсніў культурную рэвалюцыю. Нябывалага росквіту дасягнулі эканоміка, навука і культура — нацыянальныя па форме і сацыялістычныя па зместу. Узняўся матэрыяльны дабрабыт працоўных.

Вялікія эканамічныя і культурныя дасягненні беларускага народа за гады савецкай улады выклікаюць асаблівую цікавасць таму, што яшчэ некалькі дзесяткаў год таму назад на беларускай зямлі панавалі галеча і голад.

Беларусь з'яўлялася адной з адсталых ускраін царскай Расіі. У 1913 годзе на яе тэрыторыі налічвалася каля 1000 прадпрыемстваў цэнзавай прамысловасці, на якіх працавала ўсяго 38,5 тыс. рабочых. У некаторых галінах прамысловасці (ільноапрацоўчая, лесанарыхтоўчая і інш.) значную ролю адыгрываў замежны капітал. У сваёй пераважнай большасці прамысловыя прадпрыемствы Беларусі

былі дробнымі з колькасцю рабочых не больш, як 50 чалавек. На такіх прадпрыемствах працавала амаль палавіна ўсіх рабочых.

Беспрасветную карціну прадстаўляла сабой беларуская вёска. Чатыры тысячы памешчыкаў уладалі 66,5 прац. усіх зямельных угоддзяў. Напрыклад: княгіня Гогенлоэ мела 700 тысяч дзесяцін зямлі, а граф Патоцкі — 240 тысяч дзесяцін. Толькі адна трэцяя частка найгоршай зямлі прыходзілася на долю 664 тысяч сялянскіх гаспадарак. Сяляне былі задушаны адработкамі, кабальнай арэндай і ўсялякімі плацяжамі. У памешчыцкіх і кулацкіх гаспадарках працавала каля 200 тысяч батракоў. Пераважная большасць сялян не магла забяспечыць сябе хлебам, жыла ўпрогаладзь, харчуючыся мякінай, карой, лебядой, і ў лепшым выпадку бульбай. Сведчаннем поўгалоднага жыцця беларускага селяніна ў мінулым служаць назвы многіх вёсак Беларусі — Бясхлебіца, Махаеды, Караеды і г. д.

Не лепшай была доля рабочых Беларусі, якія цалкам знаходзіліся ва ўладзе капіталістаў і царскай адміністрацыі. Рабочы дзень дасягаў 13—14 гадзін, не было ніякай аховы працы. Заработная плата была надзвычай мізэрнай. Непасільная праца і жабрацкае жыццё выклікалі масавыя захворванні, прыводзілі да хуткага знясілення і вялікай смяротнасці рабочых.

Рабочыя і сяляне Беларусі пакутвалі не толькі ад надзвычай жорсткай памешчыцка - капіталістычнай эксплуатацыі, але і ад палітычнага бяспраўя і нацыянальнага прыгнёту. Царскі ўрад праследваў беларускую культуру і мову. Ён свядома трымаў працоўных у цемры і невуцтве. Звыш 80 прац. дарослага насельніцтва Беларусі было няграматных.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва, назаўсёды вызваліла працоўныя масы Беларусі ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. З адсталай ускраіны царскай Расіі Беларусь пераўтварылася ў індустрыяльна - калгасную рэспубліку. Як і ва ўсім Савецкім Саюзе, у Беларускай ССР перамог новы грамадскі лад — сацыялізм. Назаўсёды былі ліквідаваны эксплуататарскія класы і знішчаны прычыны, якія параджалі эксплуатацыю чалавека чалавекам.

Росквіт Беларускай ССР аказваў вялікі рэвалюцыянізуючы ўплыў на працоўных Заходняй Беларусі, якія ва ўмовах страшэннага тэрору вялі на працягу дваццаці год самаадданую барацьбу супраць белапольскіх акупантаў, за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У 1939 годзе збыліся спадзяванні беларускага народа аб уз'яднанні ў адзінай Беларускай сацыялістычнай дзяржаве.

Але далейшая мірная стваральная праца беларускага народа была спынена 22 чэрвеня 1941 года вераломным нападам гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз. Другая сусветная вайна прынесла беларускаму народу каласальныя бедствы і незлічоныя страты. Паводле даных камісіі па расследванню нямецка - фашысцкіх злачынстваў, гітлераўскія захопнікі знішчылі ў Беларусі 2.200 тысяч мірных жыхароў і ваеннапалонных, і каля 300 тысяч жыхароў загналі на катаржныя работы ў Нямеччыну. Яны разбурылі большасць гарадоў і вёсак, пакінуўшы без прытулку мільёны людзей, знішчылі большасць прамысловых прадпрыемстваў, разграбілі і ліквідавалі калгасы, саўгасы, МТС і культурныя ўстановы. Агульныя, толькі ўлічаныя страты, нанесеныя фашысцкімі акупантамі народнай гаспадарцы Беларусі, склалі 75 мільярдаў рублёў.

Беларускі народ праявіў сапраўды тытанічныя намаганні для таго, каб за кароткі час ліквідаваць цяжкія вынікі нямецка - фашысцкай акупацыі. Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, пры братняй дапамозе ўсіх народаў Савецкага Саюза, беларускі народ за самы кароткі тэрмін не толькі аднавіў разбураную ворагам гаспадарку, але і дабіўся новых буйных поспехаў у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры, у павышэнні матэрыяльнага дабрабыту працоўных.



*Помнік Янку Купалу ў Радашковічах. (Скульптары: Л. і М. Робэрман)*

У брацкай сям'і народаў СССР Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка за 40 год прайшла вялікі і слаўны шлях свайго развіцця. Карэнныя перамены наступілі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Разгарнулася шырокае будаўніцтва новых фаб-

рык і заводаў, школ, бальніц, кінатэатраў і іншых устаноў культуры. У шырокіх маштабах праводзіліся меліярацыйныя работы. Сведчыць аб гэтым хуткі рост капітальных укладанняў у народную гаспадарку Беларускай ССР.

### Капіталаўкладанні ў народную гаспадарку БССР

(у цэнах на 1.VII.1956 г.)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| I. | пяцігодка | 1928 — 1932 | — 1.206 | млн. руб. |
| II. | „ | 1933 — 1937 | — 1.930 | „ „ |
| III. | „ | 1938 — 1941 | — 3.244 | „ „ |
| IV. | „ | 1946 — 1950 | — 7.422 | „ „ |
| V. | „ | 1951 — 1955 | — 12.073 | „ „ |

Асаблівая ўвага ў развіцці народнай гаспадаркі была звернута на хуткі рост індустрыялізацыі Беларусі. За параўнальна невялікі час была створана магутная сацыялістычная прамысловасць, якая стала вядучай галінай эканомікі Беларускай ССР.

## Прамысловасць

За 40 год Савецкай улады вялізарных поспехаў дасягнула прамысловасць Беларусі. У 1957 годзе аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў 24 разы ў параўнанні з 1913 годам. Цяпер у рэспубліцы выпрацоўваецца электраэнергіі ў 800 разоў, торфу здабываецца ў 400 разоў, цэменту выпрабляецца ў 16 разоў больш чым у 1913 годзе.

У пасляваенныя гады ў Беларусі побач з аднаўленнем і далейшым развіццём галін прамысловасці, якія былі раней, створаны многія новыя, важныя галіны прамысловай вытворчасці — аўтамабільная, трактарная, цукровая, выпуск падшыпнікаў, матацыклаў, веласіпедаў, швейных машын, тэлевізараў, гадзіннікаў і многія іншыя.

«Беларусь індустрыяльная» — так называе цяпер беларускі народ сваю рэспубліку. У цяперашні час Беларусь выпускае металарэзных станкоў, электраэнергіі, матацыклаў, веласіпедаў, кансерваў больш, чым уся дарэвалюцыйная Расія. Беларуская ССР займае значнае месца і ў агульнасаюзнай вытворчасці. Займаючы толькі 1 прац. тэрыторыі і 4 прац. насельніцтва СССР, Беларусь выпускае звыш 8 прац. усіх металарэзных станкоў выпускаемых у СССР, звыш 10 прац. матацыклаў, каля 16 прац. веласіпедаў, звыш 13 прац. торфу, 7 прац. аконнага шкла, 14 прац. фанеры і 11 прац. ільняных тканін.





*Грузавікі МАЗ—300 прадукаваныя аўтамабільным заводам у БССР у Мінску.*

Асабліва хуткімі тэмпамі развівалася машынабудаўнічая прамысловасць Беларусі. Выпускае яна машыны неабходныя для ўсіх галін народнай гаспадаркі. Станкі, аўтамабілі, трактары, матацыклы, веласіпеды, дарожныя і будаўнічыя машыны, машыны для тарфяной прамысловасці, сельскагаспадарчыя машыны, падшыпнікі, электраматоры, швейныя машыны, гадзіннікі — усё гэта выпрабляецца на прадпрыемствах Беларусі. Такія гарады як Мінск, Віцебск, Магілёў, Гомель і іншыя сталі буйнымі цэнтрамі машынабудаўнічай прамысловасці.

Шырока развілася прамысловасць будаўнічых матэрыялаў, якая забяспечвае прамысловае і жыллёвае будаўніцтва неабходнымі матэрыяламі (цэмент, шыфер, цэгла, чарапіца, шкло, зборныя жалезабетонныя канструкцыі і інш.).

Вялікае значэнне ў забеспячэнні непасрэдных патрэб насельніцтва мае лёгкая прамысловасць, якая выпрабляе розныя тканіны (баваўняныя, ільняныя, ваўняныя, шаўковыя) трыкатаж, абутак і іншыя вырабы. Шырока развінулася таксама харчовая прамысловасць Беларусі, якая выпрабляе шырокі асартымент харчовых прадуктаў.

Сённешняя Беларусь ператварылася ў буйны эканамічны раён, які адыгрывае вялікую ролю ў агульнасаюзным выпуску раду важнейшых відаў прамысловай прадукцыі.

Цяпер Беларусь вывозіць у іншыя саюзныя рэспублікі аўтамашыны, трактары, сельгасмашыны, станкі, шарыкападшыпнікі, электраматоры, матацыклы і веласіпеды, піяніна, радыёпрыёмнікі і тэлевізары ільновалакно, абутак, трыкатажныя вырабы і г. д. З іншых саюзных рэспублік Беларусь прывозіць энергетычнае абсталяванне, пракат чорных металаў, каляровыя металы, хімікаты і іншыя віды прадукцыі.

Усё больш расшыраюцца эканамічныя сувязі Беларускай ССР з зарубежнымі краінамі. Аўтамабілі, станкі, трактары і многія іншыя вырабы прамысловасці Беларусі экспартуюцца больш чым у 30 дзяржаў свету.

Па выпуску некаторых відаў прамысловай прадукцыі Беларусь абагнала многія капіталістычныя краіны. На душу насельніцтва ў БССР цяпер выпускаецца прыкладна столькі ж металарэзных станкоў, колькі ў ЗША і Англіі, і значна больш, чым у Францыі і Японіі. Па выпуску грузавых аўтамашын Беларусь абагнала Аўстрыю, Швецыю, Данію; а трактараў — Італію і Аўстрыю.

У выніку сацыялістычнай індустрыялізацыі Беларусі наступілі глыбокія перамены ва ўсіх галінах яе гаспадаркі. Беларускі паэт К. Кіраенка выразіў гэтыя перамены ў сваім вершы:

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай цёмных лясоў!*
*Паглядзіце —*
*Над ёю свецяцца*
*Агні завадскіх карпусоў.*
*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай ціхіх далін!*
*Паслухайце,*
*Як гамоняць над ёй*
*Галасы магутных турбін.*

Велічныя перспектывы развіцця адкрываюцца перад прамысловасцю БССР у 1959 — 1965 гадах. Выпуск валавой прадукцыі ўзрасце за гэты перыяд у 1,8 раза.

Асабліва хуткімі тэмпамі будуць развівацца энергетычная, машынабудаўнічая, хімічная, паліўная прамысловасць, прамысловасць будаўнічых матэрыялаў і іншыя галіны цяжкай прамысловасці. У Беларусі будуць пабудаваны такія буйныя прадпрыемствы, як: Васілевіцкая ДРЭС, Бярозаўская ДРЭС, нафтаперапрацоўчы завод у Полацку, Старобінскі калійны камбінат і іншыя буйныя прадпрыемствы хімічнай, а таксама электратэхнічнай, лёгкай і харчавой прамысловасці.



## Сельская гаспадарка

Сельская гаспадарка Беларусі прадстаўляе сабой буйную механізаваную вытворчасць. У рэспубліцы цяпер ёсць 4,023 калгасы і 165 саўгасаў. На беларускіх палях цяпер працуюць 44 тысячы трактараў (у 15-сільным вылічэнні), 11 тысяч камбайнаў і дзесяткі тысяч іншых сельскагаспадарчых машын.

З года ў год у Беларусі разшыраюцца пасяўныя плошчы, ўмацоўваецца гаспадарка калгасаў, павышаецца ўзровень сельскагаспадарчай вытворчасці. У 1957 годзе пасяўныя плошчы дасягнулі 5,4 млн. гектараў г. зн. амаль на мільён гектараў больш чым да рэвалюцыі. За гэты самы перыяд пасевы пшаніцы павялічыліся больш чым у два разы, тэхнічных культур — у 2,6 раза, бульбы — 1,7 і кармавых культур — у 6,3 раза..

Аб вялікіх пераменах, якія адбыліся ў сельскай гаспадарцы Беларусі за гады савецкай улады сведчаць змяненні ў структуры пасяўных плошчаў. У 1913 годзе збожжавыя культуры складалі 79,9 прац., тэхнічныя — 2,8 прац., бульба і гародніна — 13,3 прац., кармавыя — 3,5 прац. Асноўнымі збожжавымі культурамі былі азімае жыта, авёс, ячмень.

У 1957 годзе структура пасяўных плошчаў БССР прадстаўлялася ў наступным выглядзе: усе збожжавыя культуры складалі 55,9 прац., тэх-



*Церабленне ільну лёнакамбайнам у калгасе імя Леніна Мінскай вобласці.*

нічныя — 5,8 прац., бульба і гароднiна — 19,6 прац., кармовыя культуры—18,7 прац. З гэтага відаць, што адбыліся не толькі колькасныя, але і якасныя змены. Узрасла гатунковая база ільну, цукровых буракоў, кукурузы, лубіну, серадэлі і іншых высокадаходных культур. Павялічыліся пасевы новых, высокаўрадлівых селекцыйных сартоў сельскагаспадарчых культур.

Рэзка павялічылася таксама вытворчасць сельскагаспадарчых прадуктаў. Калі ў 1913 годзе было выраблена 33 тысячы тон ільноволокнаў, то ў 1957 годзе — 77,2 тысячы тон, бульбы сабрана амаль у тры разы больш, чым у 1913 годзе. На многа павялічыўся валавы збор пшаніцы і іншых збожжавых культур, цукровых буракоў і г. д.

Побач з павялічэннем пасяўных плошчаў і ростам ураджайнасці сельскагаспадарчых культур развівалася таксама жывёлагадоўля. Асабліва хуткі рост грамадскай жывёлагадоўлі, паляпшэнне пароднасці і павышэнне прадукцыйнасці статку наглядаецца ў калгасах і саўгасах БССР.

Адначасова з ростам пагалоўя павялічылася вытворчасць асноўных прадуктаў жывёлагадоўлі. У 1957 годзе атрымана мяса і сала (ва ўбойнай базе) 373,5 тысячы тон у параўнанні з 219 тысяч тон у 1913 годзе. За гэты самы перыяд вытворчасць малака ўзрасла з 1.429 тысяч тон да 2.561 тысяч тон.

Асабліва важнае значэнне ў развіцці ініцыятывы калгаснікаў мела ўвядзенне новага парадку планавання ў сельскай гаспадарцы. Пры новым парадку планаванне ажыццяўляецца знізу, самымі калгасамі. Выкарыстоўваючы перавагі новага парадку планавання, калгасы Беларусі з вялікай карысцю для справы пашыраюць пасевы найбольш каштоўных і высокаўраджайных культур, развіваюць найбольш выгадныя галіны жывёлагадоўлі і на гэтай аснове дабіваюцца хуткага павелічэння вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.

Дастаткова сказаць, што ў параўнанні з 1953 годам вытворчасць збожжа ў калгасах і саўгасах Беларусі ў 1957 годзе ўзрасла на 44 прац., бульбы на 40 прац., ільнавалокнаў — у 3,5 раза, малака — у 2,7 раза, мяса (ва ўбойнай базе) — у 1,4 раза. Грашовыя даходы калгасаў за гэты ж час узраслі ў 3,5 раза. У выніку дасягнутых поспехаў ва ўздыме сельскагаспадарчай вытворчасці насельніцтва больш атрымлівае прадуктаў харчавання, а лёгкая і харчовая прамысловасць — сыравіны.



## Культура

На базе поспехаў, дасягнутых у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі былі створаны ўсе неабходныя ўмовы для росквіту нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры беларускага народа.

Вялікага развіцця ў Беларусі набыла народная адукацыя. Яшчэ да вайны была ліквідавана непісьменнасць сярод дарослага насельніцтва. Беларусь пакрылася густой сеткай школ і культурна - асветных устаноў.

У 1957/58 навучальным годзе ў 12.331 агульнаадукацыйнай школе навучалася 1.224,7 тысячы дзяцей, у той час, як у дарэвалюцыйным 1914/15 годзе ў 7 682 школах навучалася ўсяго 488,6 тыс. дзяцей. Колькасць настаўнікаў у Беларусі складае цяпер каля 85 тысяч чалавек. У гарадах і сёлах паспяхова ажыццяўляецца ўсеагульная сярэдняя адукацыя.

Паслядоўнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі стварыла ўмовы навучання беларускіх дзяцей на роднай мове. Калі ва ўмовах царызма не было ніводнай школы з беларускай мовай



*Беларуская Дзяржайная акадэмічная капела пад мастацкім кірайніцтвам Р. Р. Шырмы.*

навучання, то ў 1955/56 годзе на агульную колькасць 11.346 школ у рэспубліцы, 10 730 школ было з беларускай мовай навучання, у якіх навучалася 930 тысяч дзяцей. Па колькасці вучняў на 10 тысяч насельніцтва Беларусь ідзе наперадзе такіх краін, як: Англія, Францыя, Італія.

У дарэвалюцыйнай Беларусі не было вышэйшых навучальных устаноў і ў зусім нязначных размерах ажыццяўлялася сярэдняя спецыяльная адукацыя. Пры савецкай уладзе створана шырокая сетка вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, якія з'яўляюцца трывалай базай для выхавання і падрыхтоўкі высокакваліфікаваных нацыянальных кадраў.

У цяперашні час у Беларусі працуюць, 25, вышэйшых навучальных устаноў, у якіх навучаецца 55 тысяч чалавек. Больш як 57 тысяч навучаецца ў 114 сярэдніх спецыяльных навучальных установах. У народнай гаспадарцы Беларускай ССР цяпер працуюць каля 215 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. У Беларускай ССР працуюць Акадэмія навук і Акадэмія сельскагаспадарчых навук, якія маюць разгалінаваную сетку навукова - даследчых інстытутаў і лабараторый.

Аб росце культуры беларускага народа сведчыць таксама густая сетка бібліятэк. У 1913 годзе на тэрыторыі Беларусі была 851 бібліятэка з 423 тысячамі экземпляраў кніг, а цяпер 7,6 тысячы бібліятэк, кніжны фонд якіх складае 22,4 млн. экземпляраў. У Беларусі працуюць каля 6 тысяч клубаў і дамоў культуры, 28 музеяў, 11 тэатраў, звыш 2 тысяч кіноўстановак і іншых устаноў культуры.

За перыяд з 1918 па 1957 год у Беларусі выдадзена больш чым 23.500 назваў кніг, тыраж якіх перавысіў 284 мільёны экземпляраў. Калі ў 1913 годзе было выдадзена на тэрыторыі Беларусі ўсяго 254 тысячы экземпляраў кніг, то ў 1957 годзе — амаль 14 мільёнаў. Цяпер у Беларусі выдаюцца 234 газеты, 54 часопісы і іншыя перыядычныя выданні агульным тыражом каля 275 мільёнаў экземпляраў у год.

За 40. год савецкай улады сапраўднага росквіту дасягнулі беларуская літаратура і мастацтва. У гэтым часе свае выдатныя творы пішуць Янка Купала і Якуб Колас. За апошнія дзесяцігоддзі ўзбагацілі беларускую літаратуру такія паэты, як: Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Пятрусь Глебка; празаікі — Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Іван Шамякін, Эдуард Самуйлёнак, Янка Маўр; драматургі — Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны і іншыя. У 1939 годзе ў беларускую савецкую літаратуру ўвайшлі пісьменнікі і паэты Заходняй Беларусі — Максім Танк, Піліп Пестрак, Янка Брыль, Міхась Васілёк, Міхась Машара, Валянцін Таўлай і іншыя. Творы беларускіх пісьменнікаў займаюць дастойнае месца ў агульнасаюзнай савецкай літаратуры.

За мінулае саракагоддзе беларускі народ стварыў свой тэатр, нацыянальную оперу, сімфанічную музыку. Цяпер у Беларусі працуюць: Тэатр Оперы і Балету, Філармонія, Музычная кансерваторыя, Дзяржаўная капела пад кіраўніцтвам Р. Шырмы, Беларускі народны хор пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча, Дзяржаўны сімфанічны аркестр, каля 30 музыкальных школ і інш.

Трывалы ўклад у беларускую музыку ўнеслі кампазітары — М. Чуркін, М. Аладаў, Е. Цікоцкі, Г. Пукст, А. Багатыроў, Г. Цітовіч і іншыя. На працягу саракагоддзя беларуская музыка ўзбагацілася многімі нацыянальнымі операмі, балетамі, сімфоніямі, санатамі, суітамі, баладамі, рамансамі, кантатамі, творамі камернай музыкі, сотнямі песняў. Вялікі ўплыў на творчасць кампазітараў мела беларуская народная творчасць


*Я. Купала*


*Я. Колас*


*З. Бядуля*


*М. Лынькоў*


*К. Крапіва.*


*П. Глебка*


*П. Броўка.*


*М. Танк*

Шырока разгарнулася мастацкая самадзейнасць, якая абняла самыя шырокія кругі беларускага народа.

Шырока развінулася беларускае выяўленчае мастацтва. Верныя прынцыпам сацыялістычнага рэалізма беларускія мастакі стварылі рад каштоўных карцін, прадстаўляючых барацьбу беларускага народа ў час рэвалюцыі і Вялікай айчыннай вайны, пейзажаў — прадстаўляючых хараство роднай прыроды, а таксама рад карцін, якія характарызуюць стваральную працу людзей горада і вёскі. За гады савецкай улады вялікую папулярнасць здабылі такія мастакі, як: Зайцаў, Ахрэмчык, Гаўрыленка, Кудрэвіч, Цвірка, Бальніцкі — Біруля, Волкаў, Ціхановіч і іншыя. Развінулася беларуская графіка, скульптура, архітэктура, створана кінематаграфія — самая маладая галіна беларускага савецкага мастацтва.

ЮРЫ ТУРОНАК





# Карысна ведаць

Плямы ад дзёгцю трэба адразу ж саскрэбці нажом, пасля чаго рэч намачыць у гарачым малацэ і пакінуць на гадзіну, а потым памыць у халоднай вадзе.

*

Плямы ад іржы трэба змачыць свежым лімонным сокам, пакрыць невялікім слоем сталовай солі і пакінуць на 20 гадзін. Потым усё гэта змыць вадой.

*

Белыя плямы ад гарачых рэчаў на паліраваных сталах можна выдаляць наступным чынам: плямы націраюць кавалкам парафіну з воскам, пакрыць тонкай паперай і прыціснуць гарачым прасам. Затым трэба працерці гэтае месца мяккай суконнай тканінай. Калі пляма з першага разу не сыйдзе, паўтарыце ўсё спачатку.

*

Чарнільныя плямы з адзення можна выдаліць нашатырным спіртам або растворам пітной соды (1—2 чайныя лыжкі на шклянку вады). Для выдалення чарнільных плям выкарыстоўваюць таксама падагрэты раствор лімоннай кіслаты (5—10 грамаў на шклянку вады). Пасля выдалення плям тканіну прамываюць чыстай вадой.

*

Прадметы з бронзы лепш за ўсё ачышчаюцца шчоткай, папярэдне змочанай у вадзе, у якой варыліся гарох ці боб. Пасля чысткі рэч трэба абліць чыстай вадою і старанна выцерці мяккім ручніком.

*

Плямы на шпалерах праціраюць сухім чыстым кавалачкам тканіны і чысцяць мякішам чорнага або белага хлеба. Забруднены мякіш замяняюць свежым.

*

Плямы ад яек трэба выводзіць своечасова. Калі бялковыя рэчывы, якія ўваходзяць у састаў яек, доўга знаходзяцца на тканіне, яны пераходзяць у нераставаральныя злучэнні. Звычайна плямы ад яек выводзяць вадой з дабаўленнем нашатырнага спірту.

*

Старыя плямы можна вывесці гліцэрынам або сумессю гліцэрыны з нашатырным спіртам. Гліцэрыну падаграваюць да 35—40 градусаў, шчоткай праціраюць пляму, пакідаюць на 15—20 мінут, пасля чаго тканіну мыюць.

*

Эмаліраваныя ванны лепш за ўсё чысцяцца соллю.

*

Мармуровыя дошкі чысцяцца сумессю нягашанай вапны з мыльнай вадой. Сумесь пакідаюць на мармур на суткі.

*

Шаўковую ватнюю коўдру трэба чысціць шпанічным вотруб'ем. На забруджаную тканіну насыпаюць добра сагрэтае вотруб'е і праціраюць рукою. Калі вотруб'е стане брудным, яго трэба замяніць новым, таксама падагрэтым. Гэта можна зрабіць некалькі разоў. Пасля чысткі коўдру трэба выбіць.

*

Звараную гародніну не пакідайце ў адвары. У яго пераходзяць вітаміны і мінеральныя солі, а сама гародніна робіцца вадзяністай і нясмачнай.

*

Летам многа непрыемнасцей гаспадыням прычыняюць мураўі, якія запаўзаюць у харчовыя прадукты. Каб гэта не здаралася, краі пасуды, у якой знаходзяцца варэнне, мёд,

цукар і іншыя салодкія прадукты, змазваем алеем. Алей адпужвае мураўёў.

*

Бульбу смажаць на моцна нагрэтай патэльні і соляць пасля таго, як яна падрумяніцца з усіх бакоў.

*

Летам так прыемна выпіць халоднага ліманаду, морсу, квасу. Але як іх ахаладзіць, калі няма халадзільніка або склепа? Бутэльку з напіткам абгарніце якой-небудзь тканінай, змочанай у халоднай вадзе, і пастаўце ў міску з вадой. Вада з тканіны выпарваецца і пры гэтым вельмі паніжае тэмпературу напітку. У міску трэба, па меры выпарэння, падліваць халодную ваду.

*

Каб зрабіць шпалеры непрамакальнымі, дастаткова пакрыць іх растворам, які складаецца з адной вагавай часткі шчолаку, такой жа колькасці буры і 12 вагавых частак вады. Раствор наносіцца на шпалеры губкай а затым выдаляецца пры дапамозе мяккай шчоткі. Апрацаваныя такім чынам шпалеры можна мыць.

*

Для таго каб пачысціць вырабы са скуры і надаць ім першапачатковы бляск, трэба добра ўзбіць бялок з аднаго-двух яек і з дапамогай фланелі старанна працерці ім гэтыя вырабы. Калі скура чорнага колеру, то да бялка дабаўляюць крыху сажы.

*

Для таго каб малако ў час кіпення не падгарэла, трэба каструлю перад тым, як заліць у яе малако, змачыць халоднай вадой.

*

Карціны, маляваныя алейнымі фарбамі, ачышчаюць ватным тампонам, змочаным ва ўзбітым бялку. Пасля знішчэння забруджаных месц карціну праціраюць чыстай вільготнай тканінай.

*

Некалькі кропель шкіпінару, дабаўленых да крухмальнага раствору, аблегчаць прасаванне бялізны і перашкодзяць прыліпанню яе да праса.

*

Каб знішчыць слой зеляніны, які асядае на сценкі вазы з кветкамі, дастаткова на дно пакласці медную манету і напоўніць вазу вадой.

*

Пах ад селядцоў можна выдаліць шляхам праціранння нажоў і відэльцаў ваткай, змочанай у алеі, а пах ад цыбулі з металічных сталовых прыбораў знікае, калі працерці іх сухой сталовай соллю.

*

Не саліце сырое мяса задоўга да яго апрацоўкі, бо гэта выклікае заўчаснае выдзяленне соку, што пагаршае смакавыя якасці мяса і зніжае яго пажыўнасць.

*

Пячонка будзе вельмі смачнай, калі раней, чым смажыць, патрымаць яе 2—3 гадзіны ў малацэ.

*

Сырую пячонку, калі яе прыгатаванне трэба адкласці на нейкі час, захоўваюць, абмазваючы алеем.

*

Калі мяса смажыце ў духавой шафе, палівайце яго толькі гарачай вадой ці бульёнам. Ад халоднай вады мяса становіцца цвёрдым.

*

Мяса, нацёртае лімонам і пакінутае на адкрытым праветрываемым месцы, захоўваецца ў свежым стане некалькі дзён пры самай высокай тэмпературы.

*

Непрыемны пах нафталіну з адзення можна ліквідаваць, калі пасыпаць у шафе парашком гарчыцы.

*

Калі вы хочаце хутка астудзіць які-небудзь дэсерт, ці страву, пастаўце ў пасудзіну, напоўненую халоднай салёнай вадой.



**Кутон гаспадыні**

# Халодны боршч

У летні час вельмі пажыўным і смачным з'яўляецца халодны боршч. Каб прыгатаваць яго, трэба ачысціць буракі, нарэзаць маленькімі кубікамі, пакласці ў каструлю і заліць вадой (з разліку 2 шклянкі на порцыю), дабавіць чайную лыжку воцату і паставіць варыць на 20—30 мінут. Гатовы адвар працадзіць і астудзіць, а буракі пакласці ў каструлю, туды ж дабавіць вараную бульбу і агуркі, нарэзаныя маленькімі кубікамі, дробна нарэзаныя яйкі і зялёную цыбулю. Перад падачай на стол у каструлю пакласці цёрты хрэн, соль, крыху цукру і гарчыцы. Усё гэта заліць бурачным адварам, дабавіць смятану і размяшаць. Пры падачы на стол пасыпаць зялёнай пятрушкай або кропам. Асобна можна падаць смятану.

На 500 грамаў буракоў — 200 грамаў бульбы, 2 свежыя агуркі, 2 яйкі, 2—3 лыжкі смятаны, крыху зялёнай цыбулі, цукру, воцату. З гэтых прадуктаў можна прыгатаваць халодны боршч на сям'ю ў 4—5 чалавек.

## Торт міндальны

Да святочнага стала гаспадыня можа прыгатаваць прыгожы і смачны міндальны торт.

Яго трэба зрабіць так. Яйкі расцерці з цукрам дабяла. Асобна прыгатаваць міндаль, для чаго 400 грамаў яго прамыць, прасушыць і стаўчы ў ступцы або прапусціць праз мясарубку.

Атрыманае міндальнае цеста змяшаць з яйкамі і цукрам і ўсё разам расціраць на працягу 10—20 мінут. Затым з цеста трэба спячы дзве ляпёшкі. Для гэтага цеста раскладаюць на дзве патэльні (аднолькавага памеру), змазаныя маслам і абсыпаныя сухарамі. Патэльні ставяць у духавую шафу для выпечкі на 12—15 мінут.

Асобна прыгатаваць сметанковую масу: паўлітра смятаны ўліць у каструлю, дабавіць шклянку цукру і крыху ваніліну, паставіць на агонь і варыць, памешваючы, пакуль не загусцее (колер павінен атрымацца светлакарычневы). Пасля гэтага сметанковую масу зняць з агню, ахаладзіць і выбіць лапатачкай.

Адну ляпёшку пакласці на блюда, пакрыць слоем сметанковай масы, разраўняць і накрыць другой ляпёшкай, змазаць верх ляпёшкі сметанковай масай, абсыпаць пакрышаным, зарумяненым у духавой шафе міндалем і падаць да стала.

На 450 грамаў міндалю — 10 свежых яек, 2 шклянкі цукру, 1/2 шклянкі тоўчаных сухароў, 1/2 сталовай лыжкі масла.

Для сметанковай масы — паўлітра смятаны, адну шклянку цукру і чвэрць парашка ваніліну.

## Морква ў малочным соусе

Летам можна гатаваць многа разнастайных страў са свежай гароднішы. Вельмі смачная морква ў малочным соусе. Ачышчаную моркву нарэзаць, пакласці ў каструлю, наліць крыху вады, дадаць 1/2 сталовай лыжкі масла, соль цукар, накрыць і тушыць 20—30 мінут. Падрыхтаваную такім чынам моркву асцярожна перамяшаць.

На 500 грамаў морквы патрэбна паўсталовай лыжкі мукі, 2/3 шклянкі малака, адну чайную лыжку цукру і адну сталовую лыжку масла.

## Пудынг з ягад

Муку надсмажваюць у масле і заліваюць гарачым салодкім малаком. Калі маса астыне, дадаюць жаўткі, ванілін і кашу, якая папярэдне гатуецца з адвараных і працёртых праз сіта ягад. Усё гэта старанна размешваюць, дадаюць узбітыя з цукрам бялкі і выліваюць у форму, змазаную маслам. Пудынг выпякаюць у духавой шафе на працягу некалькіх мінут.

На 5 яек бярэцца паўшклянкі мукі, па няпоўнай шклянцы малака і цукру, 100 грамаў масла, паўтары шклянкі ягад і парашок ваніліну.

## Сметанковыя піражныя з макам

У Міжнароднае свята жанчын парастуйце сям'ю такімі піражнымі. Вазьміце адно цэлае яйка і адзін жаўток, разатрыце дабяла з адной чвэрцю шклянкі цукру і трыма сталовымі лыжкамі растопленага масла. Няспынна памешваючы, уліце наступова шклянку смятаны. Усыпце ў гэтую масу паўтары шклянкі пшанічнай мукі, замясіце цеста і пастаўце ў халоднае месца на 1 гадзіну. Затым раскатайце ў тонкі слой, разрэжце на палоскі размерам прыкладна 6X4 сантыметры і раскладзіце на змазаную маслам патэльню.

Памыйце паўшклянкі маку, заліце кіпятком, накрыйце крышкай і пакіньце на гадзіну. Потым выкладзіце мак на сурвэтку, адцісніце і прапусціце праз мясарубку, змяшайце з яйкам і паўшклянкай цукру. Макавую масу раскладзіце роўным пластам на палоскі цеста і пячыце піражныя.

## Прыгатаванне пладова-ягадных сокаў

З суніц, маліны, парэчак, вішань лёгка прыгатаваць прыемныя на смак сокі. Перш за ўсё з ягад трэба выдаліць пладаножкі і костачкі. Затым пакласці ягады ў эмаліраваную пасуду, заліць невялікай колькасцю вады і паставіць на гарачую пліту. Кіпяціць іх не трэба, а трымаць на пліце да таго часу, пакуль не зробяцца мяккімі. Пасля ахаладжэння ягады адцэджваюць і сок адціскаюць праз чыстую тканіну. Потым трэба дадаць цукровы сіроп. Для прыгатавання сіропу на 1 кілаграм цукру бяруць шклянку вады і награваюць. Крыху астыўшы сіроп уліваюць у сок (на шклянку соку паўшклянкі сіропу). Калі сок астыне, яго трэба разліць у чыстыя сухія бутэлькі і пастэрызаваць, гэта значыць бутэлькі апусціць у каструлю з цёплай вадой і падаграваць на працягу 15—20 мінут прыкладна да 70 градусаў. Затым бутэлькі шчыльна закаркаваць і заліць сургучом. Захоўваць сокі трэба ў халодным памяшканні.



**Do**

**Sądu Powiatowego**

w ..............................................

P O W O D A

A. B. rolnika zam
we wsi N. grom. M.
przeciwko pozwanemu
C. D. rolnikowi zam.
we wsi ..............................

## P o z e w

Wnoszę o zasądzenie na moją rzecz od C. D. 6000 zł. z 8% odsetkami od dnia wniesienia pozewu i kosztami procesu.

W razie mego niestawiennictwa do s ą d u proszę o rozpoznanie sprawy w mojej nieobecności.

## U z a s a d n i e n i e

Dnia 12 stycznia 1957 r. pozwany C. D kupił u mnie konia za 7000 zł. — 1000 zł. mi zapłacił, a resztę należności zobowiązał się uiścić do dnia 1 marca 1957 r.

Mimo to do dnia dzisiejszego z zobowiązania swego nie wywiązał się.

Dowód: świadkowie 1) ..............................

2) ..............................

*podpis*

*N.M. dnia 30 czerwca 1957 r.*

# Як напісаць прашэнне

Ніжэй змяшчаем два ўзоры прашэнняў. Карыстаючыся гэтымі ўзорамі можна самаму, калі зайдзе патрэба, напісаць прашэнне ў той ці іншай справе.

**Do**
**Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej**
w Białymstoku
Ref. Karno-Administracyjny

A. B. zam. we wsi N. N.
grom. Ch. pow. Augustów

**P o d a n i e**

Ref. Karno-Administracyjny przy Prezydium P. R. N. w Augustowie ukarał mnie grzywną w kwocie 500 zł. za niedostarczenie w terminie oznaczonym 3q zboża.

Proszę o uchylenie tego orzeczenia i uniewinnienie mnie z następujących względów:

Zboża nie dostawiłem dlatego, iż na skutek ulewnych deszczów znaczna część zbiorów została zniszczona. Od wymiaru obowiązkowych dostaw złożyłem odwołanie do Prez. G. R. N. w .............................. na które dotychczas odpowiedzi nie otrzymałem.

*podpis*

*N. N dnia 1 kwietnia 1957 r.*



# АДРАСЫ

## ВАРШАВА

Centrala Rolnicza Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska", Kopernika 30
Centralna Rada Związków Zawodowych, Kopernika 36/40
Centralny Związek Spółdzielczości Pracy, Żurawia 47
Centralna Prokuratura, Krak. Przedmieście 25
Ministerstwo Kultury i Sztuki, Krak. Przedmieście 15/17
Ministerstwo Leśnictwa, Wawelska 52/54
Ministerstwo Oświaty, al. 1 Armii WP 25
Ministerstwo Państwowych Gospodarstw Rolnych, Żurawia 21
Ministerstwo Pracy i Opieki Społecznej, Czerniakowska 231
Ministerstwo Przemysłu Drobnego i Rzemiosła, K. Wójcika 15
Ministerstwo Przemysłu Materiałów Budowlanych, Żurawia 3/5
Ministerstwo Spraw Wewnętrznych, al. Ujazdowskie 7/9
Ministerstwo Rolnictwa, Krucza 37
Ministerstwo Skupu, Chocimska 28
Ministerstwo Szkolnictwa Wyższego, Miodowa 6/8
Ministerstwo Zdrowia, Miodowa 15
Polska Zjednoczona Partia Robotnicza, Komitet Centralny, Nowy Świat 6
Urząd Rady ministrów, al. Ujazdowskie 1/3
Akademia Sztuk Plastycznych, Krak. Przedmieście
Akademia Wychowania Fizycznego, Marymoncka 90
Politechnika Warszawska, pl. Jedności Robotniczej 1
Uniwersytet Warszawski, Krak. Przedmieście 26/28

## БЕЛАСТОК

Akademia Medyczna, ul. Kilińskiego 1, tel. 55-91
Bank Inwestycyjny, ul. Sienkiewicza 40
Bank Narodowy, ul. Rynek Kościuszki 7
Bank Rolny, ul. Sienkiewicza 22
Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, ul. M. C.-Skłodowskiej 7, tel. 54-14

## Odziały Powiatowe
## Białoruskiego Tawarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Bielsk-Podlaski — ul. Kopernika
Michałowo — Dom Kultury
Hajnówka — ul. M. Buczka 12
Siemiatycze — ul. Ks. Ściegiennego
Sokółka — Miejska Rada Narodowa
Warszawa — ul. Senatorska 8

## KSIĘGARNIE

„Księgarnia Dom Książki" Nr 2 ul. Sienkiewicza 24
„ „ „ Nr 3 ul. Rynek Kościuszki 11/14
„ „ „ Nr 5 ul. Sienkiewicza 22
„ „ „ Nr 6 ul. Rynek Kościuszki 30
„ „ „ Nr 18 ul. Kilińskiego 10

## RÓŻNE

Hotel Miejski, ul. Lipowa 3
Muzeum Regionalne, ul. Rynek Kościuszki
Teatr im. Al. Węgierki, ul. Elektryczna 12
Wojewódzki Zarząd Rolnictwa, ul. Mickiewicza 5
Wojew. Związek Gm. Spółdzielni, ul. Sienkiewicza
Sąd Wojewódzki, ul. Curie-Skłodowskiej 5
Wojew. Szpital Gruźliczy, ul. Lenina 3/5
Szpital Wojew. im. Śniadeckiego, ul. Wojskowa 13
Szpital Wojew. Położniczo-Ginekologiczny, ul. Warszawska 15
Szpital Wojew. Zakaźny, ul. Sosnowa 5

## PRASA

Redakcja tygodnika „Niwa", ul. Wesołowskiego 1
Redakcja „Gazety Białostockiej", ul. Wesołowskiego 1
Redakcja „Życia Białostockiego" ul. Wesołowskiego 1
Ekspozytura Polskiego Radia, ul. Akademicka

# Змест

